**ТОЛЬКІ У НАС! TV**

**СПАДАРОЖНІКАВАЕ!**
● БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.




## ПАГОНЯ ЗА «ПАГОНЯЙ»...

Учора рэдакцыя газеты «ПАГОНЯ» атрымала іскавую заяву Дзяржкамдруку ў суд Ленінскага раёну Горадні «о прекращении деятельности средства массовой информации — газеты «ПАГОНЯ»». Таким чынам, пагоня Дзяржкамдруку за «ПАГОНЯЙ» набліжаецца да сваёй кульмінацыі. Якой будзе разьвязка — у многім будзе залежаць ад Вас, шаноўныя чытачы, ад пазіцыі нашых калег-журналістаў, ад пазіцыі тых, чый службовы абавязак — стаяць на абароне Закону і Канстытуцыі.

У адным мы ўпэўненыя. У вольнай і дэмакратычнай Беларусі гэты дакумант будзе вывучацца, як узор падаўленьня таталітарнай дзяржавай асноўных правоў чалавека: права на сваю думку, права на свабоду слова... Таго, без чаго чалавек перастае быць чалавекам, ператвараючыся ў раба.

**Мікола МАРКЕВІЧ.**




У выхадныя па начах чакаюцца прымаразкі да -4 градусаў. Удзень без ападкаў, пераменная хмарнасьць. Тэмпература паветра 10-15 градусаў.


# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

№ 38 (185) • 20 — 26 верасьня 1996 г. • Кошт свабодны


## ПРАСЬЦЕЙ ТРЭБА БЫЦЬ. БЛІЖЭЙ ДА НАРОДУ

**Драбнее мой народ... Страчвае баявы дух...**

**Раней як было? Раней нашыя кіраўнікі раз і, здавалася б, назаўсёды прыраўнялі пяро да багнэту.**

**А што цяпер? Цяпер пяро раўняюць з беляшамі і півам. Крыўдна.**

Як толькі абвясьцілі рэферэндум, так «ПАГОНЯ» адчула, што на нас, што называецца, «наязджаюць». Два тыдні ў рэдакцыю, як на працу ходзяць падатковыя інсьпектары. За гэты час можна правесьці аўдзіт швайцарскага банку сярэдняй рукі. Знайсьці ката, якога няма...

Потым нашыя распаўсюджвальнікі газет адчулі раптоўную ўвагу міліцыі. Міліцыя патрабуе ад іх дазвол на гандаль. Нібыта газеты прадаюцца, як нерухомасьць. Альбо як піражкі. Два карэспандэнты «ПАГОНІ» цудоўна абмеркавалі з двума міліцыянтамі сьпецыфіку газетнага гандлю. Ніхто не аспрэчвае сусьветны досьвед продажу газетаў, калі гандляры ледзь не марафоны бегаюць па вуліцах. Толькі ў нас усё іначай, а міліцыянтаў цікавіць адно: дазвол. Для чыстаты эксперыменту (прабачце, калегі) мы спыталі, як яны ставяцца да распаўсюджвальнікаў «Инфо Биржи». Паколькі ў тых таксама не было дазволу, то прагналі і іх. Але пачалі ўсё роўна з нас.




«ПАГОНІ» параілі браць дазволы, як іх бяруць звычайныя гандляры. Добра, што не запатрабавалі ставіць браніраваныя шапікі. Хаця мы выдатна ведаем, чаму раптоўна спатрэбіўся «дазвол», гатовыя яго ўзяць. У гаспадарцы прыдасца. Адно турбуе: каго і як прасіць дазволу на гандаль у цягніках, ці, дапрыкладу, на пляжы. Пана Бога? Так ён нікому ніколі не забараняў працаваць на сваю і агульную карысьць. І яшчэ: скажыце, трэба нам пры продажы мець серціфікат якасьці і да каго зьвяртацца па яго выдачу? На ўсялякі выпадак запытаемся ў мытнікаў: калі мы надрукуем якога «забугорнага» аўтара, містэра Д.Мэцью, напрыклад, ці павінны мы плаціць мыт? Заадно адкажыце, спадары з санстанцыі, на маё асабістае пытаньне: ці павінен я, улічваючы харчовы эквівалент пяра, узяўшы ручку, перад гэтым мыць рукі?

Кажуць, што «удзельнаму баярыну» нашы гандляры колюць вочы, калі ён праязджае міма іх. Прасьцей трэба быць, прасьцей, і людзі да вас пацягнуцца. Бясконцым патокам... Як некалі ў Маўзалей.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## "БЕЛЫЯ ВАРОНЫ" СЦЭНАРУ НЯ ЗЬМЕНЯЦЬ

**Вылучэньне дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу, які выканаўчая ўлада намеціла на 19 кастрычніка, у разгары. «Ідэалагічную пасяўную» упэўненай рукой накіроўваюць штабы у рай- і гарвыканкамах. Устаноўка такая: вылучаць самых надзейных і правераных!**

Але тэорыя тэорыяй, а жыцьцё... У сельскіх раёнах устаноўка спрацоўвае на 100 працэнтаў. Тут сярод дэлегатаў - у асноўным прадстаўнікі кіруючай праслойкі, якія будуць падтрымліваць усё. Скажам, на Воранаўшчыне - гэта намесьнік старшыні райвыканкаму, дырэктар адной з гаспадарак, дырэктар школы і г.д.

Што да абласнога цэнтру, то тут у дэлегаты часам вылучаюць і людзей без вялікіх ласад.

## ПІЦЕ, ЛЮДЗІ, МАЛАКО...

Выпадак захворваньня дыфтэрыяй зарэгістраваны ў вёсцы Каробчыцы Гарадзенскага раёну. Аб гэтым праінфармавала жыхароў абласнога цэнтру санэпідслужба. Справа ў тым, што захварэўшая, грамадзянка Б., прадавала малочныя прадукты гарадзенскім дачнікам. Таму - самі разумееце - тым, хто купляў у яе малако, ня лішнім будзе наведацца ў паліклініку. Беражонага Бог беражэ...

## ШУКАЙЦЕ «ПУШЧУ» Ў ГОРАДНІ

**Пасьля перапынку пачала працаваць Гарадзенская тытунёвая фабрыка. Курцам прапануюць пакуль цыгарэты традыцыйных марак. Але неўзабаве фабрыка асвоіць і новую прадукцыю - гэта цыгарэты «Пушча» і «Мінск».**




«Пушча» – цыгарэты трэцяга класу, з фільтрам, у прывабным пакунку. Ужо выпушчана пробная партыя гэтых цыгарэт, і ў бліжэйшы час яны зьявяцца ў гарадзенскіх крамах.

Другая навінка - араматызаваныя цыгарэты «Мінск». Яны павінны яшчэ прайсьці сертыфікацыю і толькі пасьля гэтага фабрыка пачне іх масавы выпуск.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

## ЧАРГОВЫ ПАДМАН, АЛЬБО НЯВЕДАНЬНЕ ЗАКОНАЎ?

**На мінулым тыдні ў дзяржаўных газетах была надрукавана аб'ява пад назвай: «Распрацоўшчыкі новай рэдакцыі Канстытуцыі чакаюць прапаноў і заўваг». Пададзены адрас, на які грамадзяне могуць дасылаць свае меркаваньні на конт праекту новай Канстытуцыі.**

Пад час сходу каардынацыйнага камітэту партыйных арганізацый і грамадзкіх аб'яднаньняў Гарадзенскай вобласьці, сябра Прэзідыуму Вярхоўнага Савету РБ Мечыслаў Гіруць тлумачыў удзельнікам сходу, што паводле закону ўнесьці зьмены ў праект Канстытуцыі ўжо немагчыма. Для таго, каб гэта зрабіць, прэзідэнту неабходна адклікаць раней прадстаўлены праект, унесьці ў яго зьмены і зноў падаць у Вярхоўны Савет для новага зацьвярджэньня на рэферэндум.

Тое ж датычыць праекту Канстытуцыі, прадстаўленага фракцыямі аграрыяў і камуністаў.

Цікава, што можа азначаць зьяўленьне ў газетах вышэйзгаданай аб'явы? Чарговы падман насельніцтва? А можа прэзідэнт ня ведае законаў краіны, якой кіруе?

**Д.К.**

## ХТО ПРАСЛУХОЎВАЕ ТЭЛЕФОНЫ В.ЦІХІНІ?

«Цалкам перакананы, што мае тэлефоны праслухоўваюцца», - заявіў старшыня Канстытуцыйнага Суду В.Ціхіня. На яго зварот да Генеральнага Пракурора В.Капітана апошні адказаў, што пракуратура санкцыі на праслухоўваньне не давала.

Зараз Суд заняты тым, што разглядае праект новай Канстытуцыі, які прапанаваў Прэзідэнт Беларусі. Афіцыйнае заключэньне па гэтаму праекту няцяжка прадбачыць - яно будзе адмоўным, бо з пункту гледжаньня кваліфікаваных юрыстаў праект ня ў стане забясьпечыць эфектыўнае існаваньне грамадзтва і зьяўляецца пазаўчарашнім днём юрыдычнай навукі і практыкі.

В.Ціхіня паведаміў таксама, што супраць яго і яго блізкіх пачаўся збор кампрамату. Такім чынам, рыхтуецца глеба для таго, каб падарваць давер да яго прафесійнай дзейнасьці і да заключэньняў Канстытуцыйнага Суду.

**Ул.інф.**

**P.S.: Калі артыкул быў падрыхтаваны да друку, сталі вядомыя факты падслухоўваньня тэлефону былога міністра абароны П.Казлоўскага. І ў гэтым выпадку усе канстытуцыйныя структуры, якія тэарэтычна маюць права на такія дзеяньні, «адхрышчваюцца» ад «причастности». Неканстытуцыйныя, якія утвораны пры Прэзідэньце Лукашэнку, пакуль маўчаць. Яно і зразумела, сапраўдны прафесіянал, устанаўліваючы «жучкі», ніколі не пакіне пасьля сябе сьлед. Той жа, хто «наведаў» кватэру П.Казлоўскага, пакінуў там свае акуляры. Што называецца, і сьмех, і грэх...**

## УСІХ ПРАВЕРЫМ!

**Татальная праверка незалежных сродкаў масавай інфармацыі, якую праводзяць дзяржаўныя кантралёры перад рэферэндумам, не абмінула гарадзенскае радыё НБК. 17 верасьня ў рэдакцыю гэтай адзінай незалежнай радыёстанцыі нашай вобласьці завітаў галоўны сьпецыяліст службы кантролю прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці Эдуард Грыва.**

Акрамя дакумантаў ён запатрабаваў копію запісу адной з праграм НБК. «Выпадкова» гэта аказаўся запіс праграмы ад 16 верасьня, у якой быў пададзены каментар артыкула ў газеце «Народная воля» старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага «Людзі, будзьце пільнымі. У рэспубліцы запахла фашызмам».

## ПЕРАСТРАХАВАЛІСЬ

«ПАГОНЯ» паведамляла, што перад візітам Лукашэнкі ў Горадню міліцыя затрымала некалькі гарадзенцаў. Іх абвінавачваюць у напісаньні на плоце, што насупраць турмы, заклікаў «Камеру для Лукашэнкі». Яшчэ нічога не даказана, сьледзтва працягваецца. Аде адну з абвінавачваемых ужо звольнілі з працы па «скарачэньні штатаў».

## ЛЮБОЎ ВЫМЯРАЕЦЦА НЕ РУБЛЯМІ?

17 верасьня агульны сход калгасьнікаў сельгаспрадпрыемства «Прагрэс» вырашыў падтрымаць прэзідэнта на рэферэндуме. Але грошай на правядзеньне шоў «Народ і прэзідэнт - адзіны» калгасьнікі пашкадавалі. Адно з самых магутных прадпрыемстваў раёну, якім зьяўляецца «Прагрэс», дало Лукашэнку толькі 10 мільёнаў рублёў.

**Д.К.**

## ПРЭЗІДЭНТ ХОЧА ПАРАІЦЦА З МОЛАДДЗЮ

**20-21 верасьня ў Менску пройдзе рэспубліканскі маладзёжны форум. На ім, як мяркуецца, выступіць Прэзідэнт РБ Аляксандр Лукашэнка. Ён хоча параіцца з моладдзю як весьці дзяржаўныя справы, і наконт рэферэндуму таксама.**

Дэлегаты формуму будуць прадстаўляць усе вобласьці,а таксама Менск. Вылучалі іх «у лепшых традыцыях» - столькі вось рабочых, столькі служачых і столькі вучнёўскай моладзі. Ад Горадні на форум паедуць прадстаўнікі ўніверсітэту, медыцынскага і сельскагаспадарчага інстытутаў, хіміка-тэхналагічнага тэхнікуму ды іншыя. Ёсьць надзея, што моладзь ўсё ж здолее зарыентавацца, для чаго па вялікім рахунку праводзіцца рэферэндум.

**Р.АНТАНОЎСКІ.**

## В.ЧЫКІН «ПАКАЯЎСЯ» І ПРАЙШОЎ ПАЛІТЫЧНУЮ «ЧЫСТКУ»

У нядзелю, 15 верасьня, па першай праграме беларускага радыё выступіў В.Чыкін, адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі Беларусі. Слухаючы гэтага камуністычнага кіраўніка, можна было падумаць, што слухаеш «агалцелага бэнэфаўца». Чыкін ва ўсю бэсьціў вышэйшае кіраўніцтва сваёй партыі і дагаварыўся да таго, што камуністычная партыя страчвае аўтарытэт і хутка яе пакінуць усе члены.

Верным шляхам крочыце, таварыш Чыкін! Трэба прызнаць, што БНФ і іншыя партыі вядуць сябе пад ціскам рэжыму больш годна.

**С.С.**

## «...НАМ ХЛЕБА НЯ ТРЭБА - РАБОТУ ДАВАЙ!»

**Да 1 кастрычніка ў Горадні павінны быць выраблены «ганаровыя пераходныя сьцягі гарвыканкаму».**

За «высокія паказчыкі ў разьвіцьці прамысловасьці, транспарту, сферы паслугаў і гандлю» і за «дасягненьні ў сацыяльна-культурным разьвіцьці» імі будуць узнагароджвацца лепшыя працоўныя калектывы «незалежна ад формаў уласнасьці». Уладальнікі першых трох месцаў у кожнай «намінацыі» атрымаюць таксама адпаведна 300, 250 і 200 мінімальных заробкаў ад «стымулятараў» «разьвіцьця працоўнай і творчай ініцыятывы». Калі ўлічыць нядаўнія выказваньні прэзідэнта, што рэферэндум будзе праводзіцца на ахвяраваньні «працоўных калектываў, то можна не сумнявацца, што сьвежасьпечаныя перад рэферэндумам сьцяганосцы свае «прэміі», атрыманыя з бюджэту, пералічаць «у знак падзякі» у фонд плебісцыту. Астатнім жа гарадзенскім працоўным калектывам прыйдзецца выходзіць на суботнікі, каб зарабіць прэзідэнту на рэферэндум.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ШУКАЕ КАМПРАМІСУ

Пасьля двухтыднёвай паўзы Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь аднавіў сваю працу. Галоўны яе стрыжань - пасьлядоўны пошук разумнага кампрамісу з Прэзідэнтам А.Лукашэнкам ў пытаньні рэферэндуму. Парламентарыі (не зважаючы на магутны ціск на іх з боку выканаўчай улады, «прамываньне мазгоў» электарату ў дзяржаўных мас-медыя) падкрэсьлілі адданасьць Канстытуцыі і законнасьці, унесьлі новыя ініцыятывы дзеля выйсьця з патавай, як кажуць шахматысты, сітуацыі.

Фракцыі аграрыяў і камуністаў у Вярхоўным Савеце зьвярнуліся да калег з прапановай Прэзідэнту і парламенту адначасова адклікаць свае Праекты Канстытуцыі, стварыць пагаджальную камісію, удакладніць адзіны тэкст Асноўнага закону і вынесьці яго на абмеркаваньне. Такім чынам, пазьбегнуць вострага сутыкненьня паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі. Але шанцы ў прыхільнікаў кампрамісу, відаць, невялікія. Таму што імкненьне да паразуменьня павінна быць у абодвух бакоў. Прэзідэнт пакуль такой ініцыятывы не праявіў.

Не пакінуў парламант на гэтым тыдні без увагі і давыбары ў Вярхоўны і мясцовыя Саветы. Практычна ўжо цяпер павінна пачацца вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты, але выбарчыя камісіі не атрымалі яшчэ грашовых сродкаў. Міністр фінансаў, які выступіў 17 верасьня на паседжаньні ВС і не адмовіў у грашах, але і не сказаў канкрэтна, калі яны паступяць на рахунак Цэнтральнай выбарчай камісіі. Так што няўпэўненасьць з давыбарамі захоўваецца.

Парламентарыі ўнесьлі ў парадак дня пытаньне аб тым, як выконваецца ранейшае рашэньне Вярхоўнага Савету па асьвятленьні сесіі нацыянальнай тэлерадыёкампаніяй. У сувязі з тым, што дзяржаўнае радыё і тэлебачаньне ўпарта ігнаруюць заканадаўцаў, дэпутаты нават прапанавалі пазбавіць акрэдытацыі у ВС карэспандэнтаў Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі. Асьвятляць жа працу дэпутатаў над законамі (трэба ж прарваць інфармацыйную б л а к а д у ! ) некаторыя парламентарыі прапануюць папрасіць журналістаў расейскіх сродкаў масавай інфармацыі. Скандал, канешне! Дзе такое яшчэ можна сустрэць, каб парламант ня меў магчымасьці зьвярнуцца да грамадзян сваёй краіны!

**Р.АНТАНОЎСКІ.**




## КАЛІ КАРАБЕЛЬ ТОНЕ...

З крыніц, якія заслугоўваюць даверу, стала вядома, што адзін славуты на Гарадзеншчыне Палкоўнік Ідэалагічных Войскаў у адстаўцы, які цяпер жыве ў Менску і дае парады як кіраваць Беларусьсю, распачаў абмен набытай за нядоўгі тэрмін пражываньня ў Горадні маёмасьці: прыватызаванай кватэры, дачы, гаража на аналагічны «джэнтэльмэнскі набор сапраўднага камуніста», толькі ў расейскім горадзе Пензе. Калі абмен пройдзе ўдала, у адстаўнога палкоўніка з усёй маёмасьці-нерухомасьці застанецца толькі катэдж.

З катэджам будзе ня так проста. Спробы прадаць яго Палкоўнік распачаў яшчэ на пачатку году. Аднак кан'юнктура рынку катэджаў у Горадні зараз не спрыяе ўдаламу бізнэсу. Чыноўнікі, набраўшыя дармовых крэдытаў на «паляпшэньне нездавальняючых жыльлёвых умоваў» панабудавалі безьліч катэджаў у Зарыцы, Баранавічах, Паўднёвым і іншых прадмесьцях горада. Сам Палкоўнік, калі браў ільготную ссуду, назваўся чамусьці чарнобыльцам, і яму ахвотна паверылі. Аднак цяпер ні ён, ні ягоныя калегі «па няшчасьці» не зьбіраюцца жыць у новабудоўлях, бо кожны мае добраўпарадкаваныя кватэры, а ў раёнах прыватных забудоў няма камунальных зручнасьцяў. Прадаць «фазэнду» за суму больш чым $ 10 000 лічыцца за шчасьце.

Для Палкоўніка справа ўскладняецца тым, што яго высокае становішча не дазваляе весьці бізнэс-таргі адкрыта. У дадатак, недобразычліўцы «накапалі» начальству палкоўніка пра яго фінансава-катэджныя праблемы. Цікава, ці не расцэніць начальства дзеяньні Палкоўніка, як дэзертырства?

**Фама МЯЦЁЛКІН.**

## ЛЕБЕДЗЬ У РАСЕЮ ПРЫНЁС МІР. А Ў БЕЛАРУСЬ?..

**Таямнічы візіт А.Лукашэнкі ў Маскву і ня менш таямнічы прыезд сакратара Савету бясьпекі Расеі Аляксандра Лебедзя ў Беларусь выклікалі шмат плётак і здагадак. Канкрэтна так ніхто і ня ведае, аб чым і з кім размаўляў Лукашэнка ў Маскве. І што абмяркоўвалі былы дэсантнік з былым палітруком.**

Але зразумела адно - што б ні рабіў Рыгоравіч на Беларусі, Лебедзь ня будзе супярэчыць. Чаму чалавек, які ня раз выказваў сваю пагарду да ваенных камісараў, так хутка знайшоў агульную мову з адным з іх?

Хутчэй за ўсё таму, што Лебедзь - класічны расейскі нацыяналіст. Ён ведае, што Лукашэнка, як прэзідэнт, карысны для Расеі. Праблемы ж беларускага народу яго не цікавяць. Па словах сакратара Савету бясьпекі Расеі, Лукашэнка «серьёзно пошёл на сближение с Россией, и это делает ему честь».

Яшчэ больш канкрэтна выказаўся герой першых прэзідэнцкіх выбараў у Расеі Жырыноўскі: «Плох ли Лукашенко, или хорош, но он превратился в символ объединения народов в постсоветский период. Уничтожить этот символ означает надолго отодвинуть перспективу возрождения империи».

Калісьці вельмі дэмакратычны прэзідэнт ЗША выказаўся пра нікарагуанскага дыктатара Самосу: «Самоса,канешне, сукін сын. Але гэта наш сукін сын!».

**Дз.КІСЕЛЬ.**

## СВАБОДУ ПАЭТУ!!!

**Беларускі паэт Славамір Адамовіч кінуты за краты ў турму. Больш трох месяцаў, інкрымінуючы яму выдуманыя парушэньні закону, сьледчыя органы зьдзекваюцца з яго.**

Калі С.Адамовічу адмовілі ў сустрэчы з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і блізкімі людзьмі, а таксама з адвакатам, не далі магчымасьці перапыніць незаконнае ўтрыманьне ў няволі, ён абвясьціў бестэрміновую сухую галадоўку. Апошняя ледзь ня скончылася трагічна ў камерах КДБ. Перапыніць гэтую галадоўку прымусіла жаданьне змагацца супраць таталітарызму і зьдзеку з асобы ў нашай добразычлівай краіне. «Патрэбна змагацца,патрэбны сілы», - словы паэта і грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

За што ж мучаюць чалавека і творцу? За верш супраць дыктатуры на Беларусі, супраць рэжыму, ідэалам якога зьяўляецца фашысцкая Нямеччына. Абсурд справы заключаецца ў тым, што карнікі з КДБ далі «юрыдычную адзнаку» твору, які не чыталі грамадзяне нашай краіны.

Калісьці расейскія царскія ўлады не арыштавалі і не пасадзілі ў Петрапаўлаўскую крэпасьць паэта, які за сьмерць А.С.Пушкіна абурыўся ў яе адрас гнеўнымі, асуджальнымі словамі (па сучаснай тэрміналогіі «крымінальнымі словамі»): «Вы, жадною толпою стоящие у трона, Свободы гения и славы палачи». *І прамовіў: «Есть божий* Суд... Он ждёт...», які пакарае забойцу паэта.

Падобна на тое, што ў нашай незалежнай краіне надыйшоў страшны час культу асобы, які існаваў у былым Савецкім Саюзе ў 30-50 гады. Тады літаратура была «унижена, затравлена, загублена» (А.Фадзееў). Паэтаў за праўду, за супрацьстаяньне антычалавечай палітыцы «Травили, ловили на слове, Им сети плели, Куражась корнали им крылья, Бывало и к стенке вели» (Б.Акуджава).

А сёньня на Беларусі зноў судзяць паэтаў. Судзяць за вершы. Злачынная ўлада баіцца свабоднага слова.

**М.КІРЭЙ.**

## ЗАМЕСТ «КРУГЛАГА СТАЛА» — КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ

**13 верасьня на плануемае першае паседжаньне «круглага стала» прыйшлі кіраўнікі 11 партыйных арганізацый і грамадзкіх аб'яднаньняў Гарадзеншчыны. У прыватнасьці: Аб'яднанай аграрнай партыі, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, БНФ, БСДГ, «Патриотической партии», партыі «Очищение», клубу выбаршчыкаў, Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў, абласной асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій, Саюзу прадпрымальнікаў, прафсаюзу прадпрымальнікаў «Ліга». Камуністы свайго прадстаўніка на сход не прыслалі.**

Паседжаньне пачалося з нечаканай прапановы ініцыятара скліканьня сходу, старшыні абласной партыйнай арганізацыі аграрнікаў спадара Мечыслава Гіруця. Ён сказаў, што 12 верасьня на паседжаньні выканкаму яго партыі была выказана думка аб немэтазгоднасьці далейшай працы рэспубліканскага «круглага стала». Аграрнікі прыйшлі да такой высновы пасьля таго, як выканаўчая ўлада адмовілася прымаць удзел у сумеснай працы з партыямі і грамадзкімі аб'яднаньнямі. Таму спадар Гіруць прапанаваў не ствараць «круглы стол» Гарадзенскай вобласьці. Пасьля кароткага абмеркаваньня, па прапанове старшыні гарадзкой Рады БСДГ Міхася Патрэбы і намесьніка старшыні гарадзкой рады БНФ Сяргея Мальчыка, прысутныя вырашылі замест «стала» утварыць каардынацыйны камітэт партыйных арганізацый і грамадзкіх аб'яднаньняў Гарадзенскай вобласьці.

Камітэт прыняў Заяву, пад якой падпісаліся ўдзельнікі сходу, згодныя працягваць сумесную працу.

Старшыня партыі «Очищение» Барыхін згадзіўся падпісаць дакумант з агаворкамі. Ён лічыць, што п.2.2 заявы занадта катэгарычны. Маўляў, зьмены ў Канстытуцыі, прапанаваныя прэзідэнтам, толькі могуць прывесьці да дыктатуры, а не абавязкова прывядуць. Таксама «очищенцы» ня згодныя з пунктам 2.3. На іх думку вінаваты ня столькі прэзідэнт, колькі Посахаў і Замяталін. На пытаньне журналістаў, чаму ён выказваецца супраць былога лідара «Очищения» Посахава, спадар Барыхін адказаў, што, працуючы ў Адміністрацыі Прэзідэнта, Посахаў перастаў быць «очищенцем». А Лукашэнка пакрыўдзіў сяброў гэтай партыі, не пасадзіўшы ніводнага чалавека за карупцыю, хаця перад выбарамі абяцаў засудзіць аж 72-х.

Старшыня «Патриотической партии» Філіпаў прымаў самы актыўны ўдзел у абмеркаваньні Заявы, ня раз весяліў удзельнікаў сходу і журналістаў сваімі ведамі заканадаўства і эканамічнага становішча на Беларусі. Напрыклад, ён спрабаваў пераканаць прысутных, што паўкілаграма сьметанковага масла каштуе ў нас 8 тысячаў рублёў.

Але, нягледзячы на актыўнасьць, спадар Філіпаў дакумант падпісваць адмовіўся.

Удзельнікі Камітэту вырашылі зьбірацца не радзей аднаго разу на месяц, а пры неабходнасьці і часьцей. Наступнае паседжаньне будзе прысьвечана рэфэрэндуму.

**Дз.КІСЕЛЬ.**

## З А Я В А
## удзельнікаў каардынацыйнага камітэту партыйных арганізацый і грамадзкіх аб'яднаньняў Гарадзенскай вобласьці

Мы, прадстаўнікі розных палітычных партый і грамадзкіх аб'яднаньняў, усьведамляючы сваю адказнасьць за лёс Рэспублікі Беларусь і беларускага народу, выказваючы волю жыхароў Гарадзеншчыны розных палітычных і рэлігійных перакананьняў, незалежна ад нацыянальнасьці, паходжаньня і сацыяльнага становішча, іншых адрозьненьняў, з мэтай захаваньня суверэннай беларускай дзяржавы, канстытуцыйнага ладу, законнасьці і дэмакратыі ў краіне, усталяваньня грамадзянскай стабільнасьці і роўнасьці ўсіх перад законам, абароны правоў чалавека на дастойнае жыцьцё, свабоду волевыяўленьня і атрыманьне поўнай і аб'ектыўнай інфармацыі, прымаем гэтую заяву.

**1. МЫ ПАДТРЫМЛІВАЕМ:**

- палітычны зварот удзельнікаў рэспубліканскага «круглага стала»,
- намаганьні Вярхоўнага Савету, іншых галінаў улады, усе законныя, у межах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзеяньні партый і грамадзкіх аб'яднаньняў, накіраваныя на забесьпячэньне грамадзянскай стабільнасьці і захаваньне канстытуцыйнага ладу ў краіне.

**2. МЫ ВЫСТУПАЕМ:**

- супраць любых форм палітычнага экстрэмізму, за выкарыстаньне толькі законных метадаў і прыёмаў палітычнай барацьбы,
- супраць некаторых дапаўненьняў і зьменаў у Канстытуцыі РБ, якія ўносіць Прэзідэнт А.Лукашэнка і якія прывядуць да ўсталяваньня асабістай дыктатуры,
- супраць выкарыстаньня Прэзідэнтам уладных, сілавых і гаспадарчых структур дзяржавы для падаўленьня і зьнявагі палітычных апанентаў і ўплыву на вынікі выбараў і рэферэндуму,
- супраць манапалізацыі выканаўчай уладай радыё, тэлебачаньня і іншых дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі для маніпуляцый грамадзкай думкай і палітычных правакацый.

**3. МЫ ВЫСТУПАЕМ:**

- за падпарадкаваньне ўсіх уладных структур, службовых асоб і арганізацый Канстытуцыі і Законам Рэспублікі Беларусь,
- за захаваньне падзелу паўнамоцтваў паміж рознымі галінамі ўлады, іх раўнавагу і супрацоўніцтва,
- за абраньне кіраўнікоў мясцовай улады непасрэдна насельніцтвам дадзенай тэрыторыі,
- за неадкладнае правядзеньне эфектыўных эканамічных рэформаў, накіраваных на забесьпячэньне дастойнага ўзроўня жыцьця грамадзян Рэспублікі Беларусь.

**4. У сваіх дзеяньнях мы кіруемся ПРЫНЦЫПАМІ:**

- цывілізаваных і законных правілаў паводзін, якія грунтуюцца на нормах агульначалавечай маралі,
- роўнасьці ўсіх у выказваньні і распаўсюджваньні сваіх поглядаў,
- павагі да інтарэсаў меншасьці,
- захаваньня права ўдзельнікаў каардынацыйнага камітэту на асабісты пункт гледжаньня,
- вырашэньня ўсіх спрэчных пытаньняў праз шлях перамоваў і ўзаемных саступак,
- недапушчальнасьці паклёпаў, прыніжэньня годнасьці і дыскрэдытацыі апанентаў.

Мы зьвяртаемся да ўсіх палітычных арганізацый і грамадзкіх аб'яднаньняў Гарадзенскай вобласьці, ўсіх, каму неабыякавы лёс і будучыня Беларусі, усіх, хто падзяляе гэтыя погляды і прынцыпы з заклікам далучацца да ўдзелу ў каардынацыйным камітэце, аб'ядноўваць намаганьні ў будаўніцтве дэмакратычнай сацыяльна-прававой суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Прынята ў г.Горадні 13 верасьня 1996 г. на паседжаньні каардынацыйнага камітэту партыйных арганізацый і грамадзкіх аб'яднаньняў Гарадзенскай вобласьці.

**М.Салянік,**
Аграрная Партыя;
**В.Какарэка,**
Аб'яднаная Грамадзянская Партыя;
**К.Жынь,**
Беларускі Народны Фронт;
**М.Патрэба,**
Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада;
**В.Філімонаў,**
Клуб выбаршчыкаў;
**М. Колас,**
Партыя "Очищение";
**Я.Кармільчык,**
Прафсаюз "Ліга";
**С.Буйніцкі,**
Саюз Прадпрымальнікаў;
**П.Жук,**
Асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсій;
**М.Мельнікаў,**
Беларускае дэмакратычнае аб'яднаньне "Ветэран".





# У ГОРАДНІ БАЛЬШАВІКОЎ З КВЕТКАМІ НЕ СУСТРАКАЛІ

**17 верасьня 1939 году Савецкі Саюз напаў на Польшчу, якая змагалася з фашысцкай Нямеччынай. Савецкая дзяржава ўступіла ў вайну, выконваючы дамову з Гітлерам аб падзеле Усходняй Эўропы. Але афіцыйна агрэсія называлася «вызваленчым паходам» дзеля абароны беларусаў і ўкраінцаў.**

**«ПАГОНЯ» прапануе чытачам размову з сьведкай тых падзей, жыхаркай Горадні Лідзіяй Бялугай.**

***- Спадарыня Лідзія, як успрынялі гарадзенцы вестку аб тым, што Чырвоная Армія ідзе іх вызваляць?***

- Па-рознаму. Беларусы - з надзеяй, бо пры Польшчы быў моцны нацыянальны ўціск. Мы на сваёй зямлі лічыліся людзьмі другога гатунку. А што сабой уяўляюць бальшавікі, ня ведалі, таму спадзяваліся на зьмены да лепшага. Эмігранты з Расеі, якія яшчэ раней пазнаёміліся з камуністычнай рэчаіснасьцю, пачалі ўцякаць з горада. Для палякаў гэта была трагедыя - іх краіна зноў спыняла існаваньне.

***- У шмат якіх заходнебеларускіх гарадах і мястэчках савецкія войскі сустракалі з кветкамі. Ці было такое ў Горадні?***

- У Горадні бальшавікоў з кветкамі не сустракалі. Наш горад яны бралі штурмам, са шматлікімі ахвярамі. Вялікі бой адбыўся на усходняй ускраіне Горадні, дзе зараз курган Славы. Пасьля там усё поле было ўслана трупамі расейскіх і польскіх салдатаў. На вуліцы Пралетарскай і пры Польшчы стаялі вайсковыя часткі. У будынках, дзе тады была разьмешчана аўтамабільная калона, працаглы час абараняліся польскія афіцэры. Яны здаліся толькі пасьля таго, як у іх скончыліся боезапасы. Шлі баі і ў іншых месцах горада.

Ня толькі вайскоўцы прымалі ўдзел у абароне. Дырэктар воцатнай фабрыкі сабраў гімназістаў, хлопцаў 14-16 гадоў і раздаў ім бутэлькі з бензінам. Гімназісты падпальвалі імі савецкія танкі. Пасьля аднаго забітага хлопца бальшавікі прывязалі да танка і працягнулі яго цела па ўсёй Дамініканскай (зараз Савецкая) вуліцы. Можа сёньня нехта палічыць дырэктара воцатнай фабрыкі героем. Але я асабіста чула, як няшчасная маці таго хлопца праклінала не саветы, а таго, хто падбухторыў яе сына і даў яму ў рукі бутэльку з бензінам.

***- Дзе ваша сям'я была пад час баёў?***

- Мы сядзелі ў падвале. Як потым аказалася, гэта было самае небясьпечнае месца. Чырвонаармейцы закідвалі падвалы дамоў гранатамі. Так быў забіты наш знаёмы, просты рабочы. Калі на наш падворак прыйшлі савецкія салдаты, мы ўжо выйшлі з падвала. Афіцэр загадаў усім паказаць рукі. Ён глядзеў, ці ёсьць мазалі. Так саветы правяралі хто буржуй, а хто пралетарый. Мазалёў у нас не было. Затое дома было шмат кніжак. «Ага, афіцэрскія недабіткі», - сказаў бальшавік і паставіў мяне з сястрой, маці і бацьку да сьцяны нашай хаты і ўжо сабраўся забіць нас. Выратавала суседка. Яна падбегла да афіцэра, стала цалаваць яму рукі і казала, што мы не буржуі, што бацька наш рабочы. Ня ведаю, чаму, можа таму, што суседка была апранута ў чырвоны швэдар, афіцэр паверыў ёй. Пасьля загадаў аднаму з салдатаў паднявцца разам са мной на гарышча нашага дому, паглядзець, ці няма там кулямёта. Салдат быў разумнейшы, ён нікуды ня лазіў, адвёўшы мяне да лесьвіцы, сказаў, што нам вельмі пашчасьціла, бо гэты афіцэр ужо забіў у горадзе некалькі чалавек.

***- Пасьля таго, як баі скончыліся і пачалося мірнае жыцьцё, ці хутка людзі адчулі «харастпво» савецкай улады?***

- Амаль адразу. Раней крамы Горадні былі завалены таварамі і харчаваньнем. Польскі злоты быў даволі моцнай валютай. Новая ўлада прыраўняла злоты да рубля. Савецкія афіцэры пачалі ўсё скупляць у непамерных колькасьцях і адсылаць тавары ў Расею. Неўзабаве мы адчулі, што такое чэргі і дэфіцыт. А што нас чакае наперадзе, зразумелі на такім прыкладзе. У Горадні жыў псіхічна хворы чалавек. Усе яго звалі «дурны Янка». Апранаўся Янка ў лахманы, хадзіў босы і брудны. Аднойчы яго ўбачыла маленькая дачка савецкага афіцэра і закрычала: «Папа, а тут тоже колхозники есть!». Праз нейкі час пачалі зьнікаць знаёмыя і суседзі. Людзей арыштоўвалі нават за выказваньне крытычнай думкі аб новым парадку. Вось тады мы адчулі, што такое сапраўдны прыгнёт.

**Размаўляў Дз.КІСЕЛЬ.**




# ЗАРАЗ ДЗЯДЗЬКА З ГРАШЫМА ПРЫЕДЗЕ!

**У Горадні пабывала тройца эксьпертаў з Савету Эўропы. Вынікам іх знаёмства з нашым горадам стала пастанова прызнаць гістарычны цэнтр Горадні помнікам эўрапейскага значэньня.**

А дзе ж гэты цэнтр? Ён аказаўся нечаканa вялікім: ад чыгуначнага маста праз Нёман да вуліцы Будзёнага, па ёй - да вакзалу, ад яго - па вуліцы 17 Верасьня да вуліцы Лермантава і па ёй - да Каложы.

- Савет Эўропы грошы не раздае, - гаворыць гарадзенскі гісторык Ігар Трусаў, які прыняў чынны ўдзел у азнаямленьні эўрапейцаў з нашай спадчынай. - Але яго рэкамендацыі маюць вырашальнае значэньне для тых, у каго ёсьць грошы: для банкаў, фондаў, урадаў. Так што ёсьць спадзяваньні на інвестыцыі!

Гэта прыемна, але ў гарадзкой улады і жыхароў пачне яшчэ больш балець галава. Вядома, усе засвоілі, што перарабляць, скажам, Фарны касьцёл нельга. А былую мельніцу на былой вуліцы Чапаева? А былыя асабнякі на 17 Верасьня? Вось на Лермантава ёсьць сумнавядомая школа N 4. А яна ж збудавана паводле вельмі рэдкага польскага тыповага праекту 1926 году. І што ж? Як раз зараз да яе шляхетнага драўлянага будынку прыбудоўваюць нешта вялікае з селікатнай цэглы.

Эўропа сама сябе ўжо адрэстаўравала і гатова дапамагчы нам. А ў нас - хлеўчыкі з дошак у гістарычных дварах, бялізнавыя вяроўкі па бясцэнных фасадах, крапіва ля плотаў. Нам так зручна і ўтульна. Дзядзька з мехам грошай - добра. Але дзе я сваю вяроўку прывяжу?

**Лявон ХРАПТОВІЧ.**

# НА КАЛЕНІ НЕ ПАСТАВЯЦЬ...

**Незалежны прафсаюз «Ліга» трэці год дамагаецца доступу да сваіх грашовых сродкаў, якія пералічваюцца ў агульны кацёл Фонду сацыяльнай падтрымкі.**

Кіраўнік Гарадзенскага прафсаюзу прадпрымальнікаў «Ліга» Яўген Карміьчык нядаўна, па ўласных словах, «адправіў у адстаўку Прэзідэнта А.Лукашэнку».

Адной з падстаў рашучага выступу зьявіўся парадак, які ўлада ўсталявала ў дачыненьні да грашовых сродкаў незалежнага прафсаюзу. «Ліга» распрацавала сістэму ўліку і выкарыстаньня сродкаў прафсаюзу па аздараўленьні сваіх сяброў. Аднак грошы, якія пералічваюцца сябрамі прафсаюзу ў фонд сацыяльнай абароны, асядаюць у створаным у 1993 годзе агульнарэспубліканскім фондзе. З гэтага часу прафсаюз «Ліга» не атрымаў на мэты аздараўленьня, як паведаміў сп.Кармільчык карэспандэнту «ПАГОНІ», ні капейкі. «Чамусьці нашымі грашыма распараджаюцца і карыстаюцца ўсе, акрамя нас», - гаворыць старшыня. Прафсаюз неаднаразова зьвяртаўся ў вышэйшыя дзяржаўныя інстанцыі, нават падаваў іск у Вышэйшы Гаспадарчы суд, аднак усё застаецца па-ранейшаму.

Калі Я.Кармільчык у 1994 годзе пісаў Прэзідэнту ліст, дзе пытаўся, «ці не падавіліся чыноўнікі сродкамі на аздараўленьне», ён падпісаўся «яшчэ з павагай». У лісьце ад 15 жніўня гг., спадар Кармільчык болей з павагай да прэзідэнта ня ставіцца. «Каманда ўлады зрабіла ўсё, каб «Ліга» не магла існаваць... Я беспрацоўны (стаю на біржы), але маю волю не зламалі. Вы можаце зьнішчыць мяне фізічна, але не пазбавіце права паважаць людзей працы, якія Вас кормяць і апранаюць... Можна, канешне, адмежавацца міліцыяй, КДБ, штрэйхбрэхерамі, угоднікамі і г.д., але нельга схавацца ад вачэй і вушэй грамадзян, нельга забараніць ім думаць і мець душу». Сёньня сп.Кармільчык падпісвае свой зварот так: «вернападданы дзяржавы Беларусь».

Што будзе заўтра?

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# ПРАДПРЫМАЛЬНІК СУПРАЦЬ УЛАДЫ

**Аўкцыёны па продажу камунальнай уласнасьці ў Горадні сталі традыцыйнымі. Аднак, пасьля таго, як ва ўзьнёслай атмасферы пройдуць таргі, пачынаюцца працоўныя будні. У некаторых выпадках яны ня вельмі прыемныя як для пакупніка, так і для прадаўца.**

Спадарыня С.Баркоўская стала пераможцам аўкцыёну па прыватызацыі магазіна N 9 гарпрамгандлю па адрасу пр.Я.Купалы,22. Вынікі аўкцыёну былі аформлены дагаворам куплі-продажу 9 верасьня 1994 году нумарам 43. Пакупнік цалкам разьлічыўся за пакупку.

Згодна з заканадаўствам, выканкам павінен быў замяніць часовае пасьведчаньне аб праве ўласнасьці на магазін сталым Пасьведчаньнем. Аднак, выканкам чамусьці выдаў пасьведчаньне не Баркоўскай, а іншай фірме.

Сп.Баркоўская падала іск у Гаспадарчы суд Гарадзенскай вобласьці. Суд прызнаў яе патрабаваньні справядлівымі і абавязаў Гарадзенскі гарвыканкам выдаць С.Баркоўскай пасьведчаньне аб праве ўласнасьці на набыты магазін. З рахунку аддзела па прыватызацыі спагнаны расходы па дзяржпошліне.

Улады не пагадзіліся з рашэньнем суду і абскардзілі яго ў Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі. Гэта інстанцыя пастановай ад 30 жніўня г.г. пакінула рашэньні гарадзенскага суду ў сіле, паколькі довады аддзела прыватызацыі не заснаваны на законе.

**Самсон САМАСУЙ.**

# ЯК БЯРОЗАЎСКІХ ШКЛЯРОЎ "КІНУЛІ" НА 600 МІЛЬЁНАЎ

**Гэту крымінальную справу ўзбудзіла пракуратура Гарадзенскай вобласьці ў канцы жніўня мінулага году. Рассьледаваньне было даручана праводзіць сьледчаму аддзелу УКДБ па Гарадзенскай вобласьці. У ходзе сьледства было ўстаноўлена, што грамадзянін Расеі Юры Калінін прычыніў шкоду ў асабліва буйным памеры Бярозаўскаму шклозаводу «Нёман». Аднак, пакуль сьледчыя зьбіралі доказы, спадар Калінін з поля гледжаньня КДБ зьнік. Прыйшлося абвяшчаць вышук абвінавачанага.**

Праз тыдзень Калінін быў затрыманы пад час пераезду беларуска-польскай мяжы ў Брузгах. 30 ліпеня народны суд Лідзкага раёну разгледзеў крымінальную справу і вынес прыгавор.

Суд устанавіў, што Калінін заключыў са шклозаводам «Нёман» фіктыўны дагавар ад імя неіснуючай фірмы «Белюст». Рэквізіты фірмы (адрас, тэлефон, разьліковы рахунак) таксама выдумаў. Згодна дагавору ён атрымаў на заводзе і паставіў у Нямеччыну вырабаў шклопрадукцыі на суму без малога 600 млн. рублёў. Грошы Бярозаўскім вытворцам атрымаць не ўдалося - з банку вярнулася неаплочанае плацёжнае патрабаваньне з тлумачэньнем, што фірмы «Белюст» не існуе.

Кіраўнікі завода зьвярнуліся ў менскія ахоўна-дэтэктыўныя фірмы. Іх хлопцы адшукалі Калініна, аднак спагнаць пазыку не ўдалося. Тым часам адкрылася, што ў адрасу, указаным Калініным як месцазнаходжаньне фірмы, месьціцца Лідзкае ВА ЖКГ, а шасьцізначнага нумару тэлефона не было і быць не магло, паколькі лідзкая станцыя мае пяцізначную нумарацыю. Даслалі інфармацыю немцы: усе належныя грошы яны заплацілі на тыя рахункі, якія Калінін ім падаў...

Падсудны віны не прызнаваў, аднак суд на падставе сабраных доказаў прыйшоў да высновы аб яго вінаватасьці паводле артыкула 91(1) Крымінальнага Кодэксу. Разам з тым, суд улічыў, што раней Калінін ні ў чым амаральным заўважаны ня быў. У выніку - прысуд тэрмінам на 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасьці (пры мінімальнай санкцыі ў тыя ж 10 гадоў). Касацыйная інстанцыя пакінула прысуд у сіле.

**Сяргей ПРАВАСУДЗІЧ.**

# "ЖЫВЁЛАВОДЫ"

У Ашмянах адбыўся суд над грамадзянамі Летувы Кунцэвічам і Пятроўскім, якія сістэматычна кралі жывёлу на Беларусі і прадавалі ў Летуве. Злодзеі сазналіся ў дзевяці выпадках крадзяжу ў калгасах і ў людзей. Характэрна, што за ўсе разы калгаснага вартаўніка яны бачылі адзін раз, а памежнікаў ні разу. Мяжу яны пераходзілі ля вёскі Дойнаўка Каменалогскага сельсавету, і пры гэтым зусім не зважалі на тое, што мяжа ахоўваецца сумесна беларускімі і расейскімі памежнікамі і што, як заявіў А.Лукашэнка, зараз плаціць нашым памежнікам будзе Расея, а значыць хабару яны браць ня будуць. «Зялёная» дарожка праз беларускую мяжу была, ёсьць і ў бліжэйшы час будзе самай кароткай.

А затрымалі злодзеяў толькі пасьля таго, як у справу ўмяшаліся ворганы дзяржбясьпекі. У выніку «жывёлаводы» атрымалі па 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасьці.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

# ПРЭЗІДЭНЦКІ ЛОКАЦЬ

У адпаведнасьці з пастановай «Аб парадку фінансаваньня жыльлёвага будаўніцтва ў 1996 годзе» Гарадзенскі аблвыканкам выдзяліў на горад Ліду 312 мільёнаў рублёў на так званае субсідаваньне. Усяго на гэтыя мэты Ліда павінна атрымаць 2 мільярды 873 мільёны рублёў. Атрымаць сёлета субсідыі могуць тыя, хто стаіць у чарзе з 1973-1979 гадоў. Такіх у Лідзе налічваецца каля 200 чалавек, але субсідыю атрымала толькі адна жанчына ў памеры 34 мільёны 672 тысячы рублёў на пакупку аднапакаёвай кватэры. А што, астатнія ня хочуць? Хочуць і яшчэ як, але ня могуць. Справа ў тым, што каб атрымаць субсідыю, трэба мець у банку грошы, што пакрылі б розьніцу паміж гэтай субсідыяй і коштам кватэры. І вось, калі кошт аднапакаёвай кватэры ў Лідзе складае 6-8 тысяч даляраў, а субсідыя нават па курсу 17 000 рублёў за даляр складае ўсяго 2 тысячы, то чалавек павінен мець у банку 4-6 тысяч даляраў. Але ж мала хто такія грошы, той і без субсідыі займе рэшту і дано ўжо набыў жыльлё. А для астатніх прэзідэнцкая субсідыя, што локаць: блізка, а ня ўкусіш.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

**АНЕКДОТ ТЫДНЯ.**

## «БЕСПРЕДЕЛ»

Сустрэліся ў казіно картачны шулер і «вертыкальшчык». Селі гуляць «пад інтарэс» у «ачко». Шулер выцягнуў туз і дзесятку. «Вертыкальшык» - дзьве дзесяткі.

- Грошы мае, - кажа шулер. - У мяне «дваццаць адно».

- А вось і не, - адказвае «вертыкальшык», - грошы мае. У сувязі са складанай міжнароднай абстаноўкай сёньня выйграе «двеццаць».

- Добра, давай адыгрывацца, - ня стаў спрачацца шулер.

Згулялі па-новай: у шулера - «21», у «вертыкальшчыка» - «22».

- Перабор, - кажа шулер.

- Становішча зноў пагоршылася, - заяўляе «вертыкальшчык». - Зараз выйграе «22».

 



# ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРА

## «ПАСОЛ ГЛЯДЗІЦЬ НА НАС З-ЗА ФІРАНАК»

**Раскіданыя па ўсім сьвеце беларусы не засталіся абыякавымі да лёсу сваёй гістарычнай Радзімы. Сьведчаньнем гэтага стала нядаўняя размова ў рэдакцыі «ПАГОНІ» нашага крэспандэнта з кіраўніком суполкі беларусаў у Маскве Аляксеем БУКАМ (на здымку).**



***- Што ўяўляе сабой арганізаванае беларускае жыцьцё ў Маскве?***

- Яшчэ ў 80-я гады стварылася нефармальная суполка «Пагоня», у якую ўваходзілі беларусы-студэнты з амаль усіх сталічных ВНУ. Сябры суполкі займаліся гісторыяй беларусаў у Маскве, ладзілі культурныя імпрэзы. Каля 1988 году было створанае Таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны, вакол якога да гэтага часу і гуртуюцца маскоўскія беларусы. Нефармальна існуе і група падтрымкі БНФ. Стараемся зьбірацца на ўсе традыцыйныя для беларусаў сьвяты - Дзяды, Купальле і г.д. Нягледзячы на тое, што асноўным напрамкам дзейнасьці таварыства зьяўляецца культура і асьвета, не застаемся мы ў баку і ад палітычнага жыцьця.

***- У чым гэта выяўляецца?***

- Мы заўсёды выказвалі сваё стаўленьне да найбольш значных падзей у жыцьці нашай Радзімы. Таму толькі ў гэтым годзе двойчы пікетавалі беларускую амбасаду ў Маскве, выказваючы свой пратэст з нагоды антынароднай, на нашу думку, дзейнасьці прэзідэнта Лукашэнкі. Першы пікет быў выстаўлены на Дзень Волі - 25 Сакавіка. Рэзананс быў аграмадны - інфармацыя прайшла па ўсіх расейскіх тэлеканалах і ў многіх газетах. Перад другім пікетам, які праводзіўся з нагоды 10-х угодкаў аварыі на ЧАЭС, у Маскву завітаў вядомы беларускі «ідэолаг» сп.Антановіч, які спрабаваў пераканаць маскоўскія ўлады, што пікетаваць будуць не беларусы, а «бандыты». Пікет, аднак, сарваць не ўдалося. Дарэчы, удзел у ім бралі і сябры Дэмакратычнага Саюзу Расеі. Яго лідарка - Валерыя Навадворская - прыйшла з лозунгам «Зенон Позняк - мы с тобой!»

***- Як ставіцца да маскоўскіх беларусаў нашая амбасада ў расейскай сталіцы?***

- Яшчэ ў часы існаваньня ў Маскве бээсэсэраўскага «постпредства» мы атрымалі невялікае памяшканьне ў амбасадзе, штотыдзень там зьбіраліся, ладзілі свае імпрэзы. Але затым у гэтым памяшканьні чамусьці вырашылі складаць гуманітарную дапамогу, а з цягам часу і ўвогуле перасталі пускаць. Зьмяніліся адносіны да нас і амбасадара Віктара Даніленкі. Калі напачатку ён сустракаўся з намі, даў нават аўтобус аднойчы, каб давезьці моладзь на Купальле. Цяпер жа Даніленка глядзіць на нас толькі з-за фіранак акна амбасады. Дарэчы, пасьля прыходу Лукашэнкі да ўлады усе прадказвалі, што амбасадар - «чалавек Кебіча», «паляціць» з працы. Аднак гэтага ня здарылася. Даніленка і Лукашэнка пасябравалі. Толькі аднойчы прэзідэнт гаркнуў у бок амбасадара ў Маскве: «Гаспадзин пасол, Вы мне мяшаеце гаварыць!»

***- Які рэзананс у маскоўскіх беларусаў выклікала падпісаньне беларуска-расейскіх дамоваў 2 красавіка?***

- Вельмі адмоўны. Выказаць сваё стаўленьне мы зьбіраліся на цырымоніі падпісаньня дамоваў. Напярэдадні яе маскоўская мэрыя прапанавала нам накіраваць на «урачыстасьць» 10-15 сяброў Таварыства. Але ў апошні момант высьветлілася, што мэрыя запрасіла «не тех белорусов».

Сутнасьць шоў з удзелам Ельцына, Лукашэнкі і Алексія II зразумеў у Расеі кожны, хто мае галаву на плячах. Таму да дамовы, як і да самога прэзідэнта, сур'ёзна ставяцца адзінкі. Лукашэнка - герой толькі для ультракамуністычнай і нацыяналістычнай прэсы «анпілавых і К».

***- Як ставяцца да дзейнасьці Таварыства расейскія палітычныя плыні?***

- Нас рэгулярна запрашаюць да ўдзелу ў розных сумесных палітычных акцыях. Так, беларусы ўдзельнічалі ў антываеннай дэманстрацыі супраць бойні ў Чачні, падтрымлівалі ў свой час расейскіх дэмакратаў у барацьбе супраць савецкай імперыі. Сёньня нам адкрыта спачуваюць: «Добры народ - а такога прэзідэнта мае!» Мы зьяўляемся таксама ўдзельнікамі «круглага стала» нацыянальных арганізацый пры маскоўскай мэрыі.

***- Вы - беларусы. Але беларусы як бы «збоку». Як адтуль бачацца перспектывы Беларусі?***

- Нягледзячы на тое, што жыцьцё на Радзіме ў параўнаньні з той жа Расеяй імкліва пагаршаецца, я веру ў лепшае. Прайшла ў свой час эра Чаўшэску ў Румыніі, пройдзе і эра Лукашэнкі ў Беларусі. Спадзяюся, што абыйдзецца гэта без крыві. І лепш бы ў гэтай сітуацыі прэзідэнту своечасова сысьці, каб людзі хоць за гэта яго добрым словам узгадвалі...

## ГАРАДЗЕНЦЫ «ТРЫМАЮЦЬ МАРКУ»

**16 верасьня ў менскім Палацы Мастацтва адкрылася супольная рэтрасьпектыўная выстава «Мастакі Прынямоньня». Творчая акцыя нашых землякоў у адной з самых прэстыжных выставачных залаў Беларусі - гэта спроба найбольш шырока паказаць ідэйна-эстэтычныя і фармальныя пошукі мастакоў Гарадзеншчыны, якая здаўна была багата на гучныя імёны.**

Экспазіцыя яшчэ раз пацьвердзіла, што гарадзенцы «трымаюць марку» і ні ў чым не саступаюць сталічным мэтрам. Пра гэта казалі на адкрыцьці вернісажу старшыня Саюзу мастакоў Беларусі Генадзь Буралкін і ветэран айчыннага выяўленчага мастацтва акадэмік Гаўрыла Вашчанка.

Звычайна калектыўныя выставы прайграюць з-за сваёй тэматычнай і жанравай стракатасьці, бо кожны творца мае індывідуальнае сьветабачаньне і карыстаецца ўласнай тэхнікай выкананьня. У дадзеным выпадку выстава выйграла за кошт вялікай залы, якая стварыла ілюзію, быццам адначасова прэзентуецца некалькі мінівыставаў. Варта адзначыць і канцэптуальную прадуманасьць вернісажу, якую практычна рэалізавалі Сяргей Грыневіч і Юры Якавенка.

Увагу гледачоў, мастацкіх крытыкаў, журналістаў і нават рок-музыкаў (на прэзентацыю завітаў папулярны гурт «КРАМА» у поўным складзе) прыцягнула, безумоўна, жанравая і стылёвая разнастайнасьць экспазіцыі. Бо, сапраўды, апрача палотнаў нашых знакамітых «абстракцыяністаў-мінімалістаў» Вікторыі Загнетавай, Сяргея Асапрылкі, Аляксандра Сільвановіча і Сяргея Грыневіча можна пабачыць цудоўную калекцыю шкла мастакоў Бярозаўскага шклозаводу «Нёман» і кераміку Васіля Мартынчука. Вельмі спадабаўся менчукам філасофскі жывапіс Уладзіміра Качана і Жаны Чыстай, эстампы Антона Ляшчынскага і афорты Юрыя Якавенкі, кампазіцыя з металу Юрася Мацко, прысьвечаная паэту Славаміру Адамовічу.

Шкада, што на выставе сярод жанрава-стылёвага багацьця амаль атсутнічала, акрамя адзінай працы Генадзя Лакобы, скульптура. Тым ня менш, творчую акцыю «Мастакі Прынямоньня» можна лічыць вельмі ўдалай.

**Людвік САРОКА.**

## «ШЛЯХ ДА ЎЗАЕМНАСЬЦІ» НЕ ПАТРЭБНЫ?

**Запланаваная на 14 верасьня ў Горадні беларуска-польская навуковая канферэнцыя «Шлях да ўзаемнасьці» не адбылася. Аблвыканкам, які павінен быў яе фінансаваць, растлумачыў сваё рашэньне адсутнасьцю грошай (а патрэбна ўсяго 10-15 мільёнаў рублёў).**

Ці стала гэта адзінай прычынай? Паводле неафіцыйных крыніц, улады пабаяліся, што ў выступах навукоўцаў на канферэнцыі будзе закранацца тэма незалежнасьці Беларусі і палітычнай сітуацыі ў краіне. Гэтае меркаваньне можа пацьвердзіць той факт, што ў арганізатараў канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасьці» абласное начальства напярэдадні запатрабавала прадставіць тэматыку дакладаў і рэфератаў...

Такім чынам, сродкаў на правядзеньне традыцыйнай сустрэчы гарадзенскіх і беластоцкіх навукоўцаў у нашага аблвыканкаму не знайшлося. Затое фестываль беларуска-польскай песьні (які заўсёды суправаджаў канферэнцыю) - сёлета адбыўся. Ён прайшоў 15 верасьня ў зале Гарадзенскага абласнога драматычнага тэатра з удзелам пяці мастацкіх калектываў з Гарадзеншчыны і такой жа колькасьці самадзейных ансамбляў з Беласточчыны.

Вяртаючыся да тэмы канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасьці», заўважу, што такі казус адбыўся ўпершыню пасьля падпісаньня пагадненьня паміж Упраўленьнем культуры аблвыканкаму, абласной філіяй Беларускага фонду культуры, Саюзам палякаў на Беларусі і аддзелам культуры, турызму і спорту Беластоцкага ваяводзтва, а таксама беларускім грамадзка-культурным таварыствам у Беластоку. Першая канферэнцыя і фестываль прайшлі ў 1993 годзе ў Беластоку, наступная - у Горадні, а затым - у Белавежы. Ці будзем далей існаваць «Шляхам да ўзаемнасьці»?

**І.Н.**

## ФЭСТ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЬЦЯЎ У ГДАНЬСКУ

У Гданьску напрыканцы мінулага тыдня адбыўся фэст нацыянальных меншасьцяў, што пражываюць у Польшчы. Гонар беларусаў у начным рок-канцэрце ў пятніцу 13 верасьня баранілі два гурты: беластоцкі «Кардон» і бял-падляскі «Вядро». А ў нядзелю выступалі дзяўчыны з ліцэю, што ў Гайнаўцы.

У фэсьце прынялі ўдзел таксама літоўская, славацкая, татарская і нямецкая меншасьці.

**С.С.**

## КІРМАШ НА ГАРАДНІЦЫ



Традыцыйны восеньскі «Кірмаш на Гарадніцы» зладзіў Домік рамёстваў. Сьвята, хаця і сабрала небагата люду, вызначалася цёплай атмасьферай. Удзел у кірмашы ўзялі майстры - керамісты, салома- і лазапляцельшчыкі, самадзейныя мастакі. Прысутнічала нямала добравядомых у горадзе творчых асобаў: Тацьцяна Шубіна, Лявоньцій Сераж, Людміла Міхалёва, Анатоль Рагалевіч, Ларыса Панфілава, Тамара Блудава ды іншыя. Сьпяваў фальклорны гурт з вёскі Гарны, гучалі запісы Віктара Шалкевіча, бавіў прысутных дзіцячы тэатр «Балаганчык».

**Л.МАЙНІЧ.**

## З ГЛЫБІНІ СТАГОДДЗЯЎ

У Новым замку працуе выстава навучальных кніг і падручнікаў з фонду аддзела рэдкай кнігі Дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Гэта толькі частка з 250 цікавых кніг, якія захоўваюцца ў музеі. Самая старажытная з іх датуецца 1507 годам. Наведвальнікі могуць пазнаёміцца з падручнікамі па біялогіі, анатоміі, мовазнаўству. Паказаны і першыя беларускія лемантары, кнігі для чытаньня . Супрацоўнікі музея імкнуліся перадаць асаблівасьць працэсу навучаньня на Беларусі ў розныя эпохі: у экспазіцыі ёсьць вучнёўскія сшыткі, прылады для пісьма і лічэньня ды інш.

**Сьвятлана КУЛЬ.**




**20 верасьня**

**1752 г.** Нарадзіўся Еранім Страйноўскі, вядомы мысьліцель, правазнавец, адзін з заснавальнікаў Віленскага універсітэту.

**21 верасьня**

**1801 г.** Указам імператара Аляксандра I былі ўзноўлены дзьве літоўскія губерні: Віленская і Гарадзенская (195 гадоў таму).

**23 верасьня**

**1914 г.** Нарадзіўся Міхал Плужнік, мастак, які пасьля Другой сусьветнай вайны жыў і працаваў у Горадні. Памёр у 1976 годзе.

**24 верасьня**

**1534 г.** Памёр Міхал Глінскі, славуты дзяржаўны дзеяч ВКЛ, князь, маршалак пры каралі Аляксандры Ягелончыку. Вядомы перамогамі над татарамі пад Лідай і Наваградкам.

**1641 г.** Нарадзіўся Станіслаў Незабітоўскі (335 гадоў таму), вядомы дзяржаўны дзеяч, мемуарыст. Паходзіў з наваградзкай вёскі Ятра.

**1824 г.** Пачаў будавацца Аўгустоўскі канал.

**1895 г.** У Радашковічах нарадзілася Ванда Лявіцкая (дачка пісьменьніка Ядвігіна Ш., пазьней - жонка Язэпа Лёсіка), руплівіца беларушчыны, паэтка і публіцыстка.

**27 верасьня**

**1533 г.** Нарадзіўся Стэфан Баторы (Сьцяпан Батура), кароль Рэчы Паспалітай у 1576-1586 гг. (рэзідэнцыя знаходзілася ў гарадзенскім Старым замку). Таленавіты палітык і ваяр (вядомы вызваленьнем Полацку ад маскоўскай навалы).

**Падрыхтаваў Ул.ХІЛЬМАНОВІЧ.**

## КРЫЖАВАНКА

**Склаў Сяргей ГРЫНЬ.**



**По гарызанталі:** 1. Ворган гарадзкога самакіраваньня ў Беларусі XVI-XVIIстст. 4.Дабаўленьне да мясных і рыбных страў. 8.Грошы або рэч, што даюцца службовай асобе як подкуп. 9.Металічная рашотка на вокнах, на дзьвярах. 14.Від мастацтва. 15.Марскі рак з цьвёрдым панцырам. 16.Адзінка аптэкарскай вагі роўная 62,2 мг. 19.Мінеральнае масьлянiстае гаручае рэчыва звычайна цёмна-бурага колеру. 20.Драпежная плаваючая жывёла з сямейства куных. 22.Вялікая драпежная марская рыба з верацёнападобным целам. 23.Гарадзкая падземная электрычная чыгунка. 24.Вечназялёнае хвойнае дрэва. 30.Трапічная травяністая расьліна з мясістым коранем, багатым на эфірны алей. 31.Састарэлая назва месца для трыманьня быдла. 32. Буйны мужчынскі праваслаўны манастыр. 33.Падарожжа, паездка. 34.Мазь, якую атрымліваюць з нафтавага масла і вуглевадародаў. 37.Прафесіянальны паляўнічы, які кіруе паляваньнем. 40.Невялікае самаходнае судна для розных мэтаў. 41.Сігнал трывогі ў выпадку якога-небудзь бедзтва, які падаецца пры дапамозе звана. 42.Навуковае дасьледаваньне шляхам расчляненьня цэлага на састаўныя часткі. 43.Сьвятая кніга хрысьціян.

**Па вертыкалі:** 2.Зьвяно гусеніцы трактара, танка. 3.Лінейка з дзяленьнямі ў вымяральных прыборах. 5.Лінія, якая абводзіць зьнешнюю форму прадмета. 6.Афіцыйны дыпламатычны зварот ураду адной дзяржавы да другой. 7.Вучонае званьне выкладчыка вышэйшай навучальнай установы, ніжэйшае за прафесара. 10.Архітэктурнае збудаваньне, з якога б'юць уверх струмені вады. 11.Камплект друкарскіх літар і іншых знакаў. 12.Вельмі непрыемнае пачуцьцё, выкліканае чым-небудзь. 13.Сусьветна вядомая фірма, вытворца электрабытавых прыбораў. 17.Агульная назва салей амонія, калія, натрыя. 18.Трохскладовая вершаваная стапа з націскам на першым складзе. 20.Дрэва ці куст з гнуткімі галінамі і вузкім лісьцем. 21.Вечназялёнае паўднёвае дрэва сямейства масьлінавых. 25.Той, хто дае грошы пад вялікія працэнты. 26.Свабодная вялікая прастора. 27.Падрыхтаваны для чаго-небудзь састаў фарбы. 28.Моцная сьнегавая завея, завіруха. 29.Тайна, таямніца. 35.Прылада для гайданьня, падвешаная да перакладзіны. 36.Невялікая прамысловая рыба сямейства селядцовых. 38.Вялікае памяшканьне для шматлюдных сходаў. 39.Падарожны куфэрак круглаватай формы.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗЬМЕШЧАНУЮ Ў ПАПЯРЭДНІМ НУМАРЫ:**

**Па гарызанталі:** 5.Аншлаг. 6.Жалоба. 9.Мадэльер. 10.Карнавал. 14.Аскет. 15.Макака. 17.Плімут. 18.Аплікацыя. 23.Воланд. 25.Арбіта. 27.Блыха. 29.Перамога. 30.Шаткоўня. 31.Цырата. 32.Барока.

**Па вертыкалі:** 1.Інтэрвал. 2.Сапега. 3.Баласт. 4.Абшарнік. 7.Васпан. 8.Картуз. 12.Экзекуцыя. 16.Аспід. 17.Прыма. 19.Дослед. 20.Каштарыс. 21.Абалонка. 22.Ступня. 27.Багота. 28.Аманал.

**Па дугах:** 11.Грак. 13.Сеул. 24.Нета. 26.Рытм.

 

# С П О Р Т



## НЯДОЎГА МУЗЫКА ГУЧАЛА

**Перад матчам 21 туру «Нёман»-»Дынама» (Менск) мяне адолела навязьлівае пачуцьцё - гарадзенцы павінны сёньня «выстраліць». Прадчуваньне спраўдзілася толькі напалову. Несуцяшальны баланс папярэдніх спатканьняў нёманцаў з менскімі дынамаўцамі ў чэмпіянатах краіны (адна нічыя і восем паразаў) фатальным цяжарам лёг на плечы няўдачнікаў і на гэты раз.**

Інтрыга гульні завязалася на флянзе, дзе ўтварылася «салодкая парачка» - Юйко і Чарняўскі «прыклеіліся» адзін да аднаго. І, трэба заўважыць, восьмы нумар гаспадароў перайграваў свайго візаві. У першым тайме ўмовы дыктавалі гарадзенцы. Адзіна правільна абраны тактычны план, дакладнае яго выкананьне гульцамі забясьпечылі лакальны посьпех. Ужо на 5-й хвіліне Сярогін небясьпечна запусьціў мяч побач з штангай. На 8-й Астроўскі пасьля розыгрышу адвольнага праверыў пільнасьць нашага галкіпера Малышава (і гэта быў адзіны паўмомант у чэмпіёнаў за ўвесь першы тайм). А затым на авансцэну выйшаў Юйко. На 15-й хвіліне ён ледзь не закінуў мяч Варывончыку «за каўнер». Праз 5 хвілінаў, пасьля нечаканай зрэзкі абаронца гасьцей, Віктар падхапіў «плямістага», увайшоў у штрафную і расстраляў брамніка - 1:0. Неўзабаве ён жа небясьпечна закруціў мяч з кутняга. Каманды ўжо зьбіраліся выправіцца ў разьдзявальні, калі Андрэй Сярогін, атрымаўшы перадачу зьлева ад Крываноса, разьвярнуўся і метраў з васемнаццаці нанёс неадхільны ўдар у «дзевятку» - 2:0. Гол-прыгажун, і ў паветры запахла сенсацыяй.



"Правафлянговы" Віктар Юйко.

Нішто не прадвяшчала бяды для «Нёмана» і адразу пасьля перапынку. Праўда, стала зразумела, што трэнер чэмпіёнаў Шчокін пайшоў ва-банк: атрымаўшага цяжкую траўму Ясковіча замяніў хаўбек Падрэз, Міхаіла Макоўскага - Шаўроў (у дынамаўцаў стала аж тры форварды). Але самай пераломнай сталася замена малавынаходлівага Чарняўскага на Валадзянкова - правы фланг і цэнтр абароны гарадзенцаў «пасыпаліся». На 58-й хвіліне зьлева амаль бесперашкодна прарваўся Лагодзіч – 2:1. І пакуль нёманцы былі ў стане «грогі», дынамаўцы забілі другі гол. Валадзянкоў дакладна падаў на галаву Уладзіміра Макоўскага і лепшы снайпер сталічнага клубу выкшталцона адправіў мяч у сетку. Трэці гол быў толькі пытаньнем часу. Урэшце, пасьля дальняга ўдару Макоўскага Шаўроў пры пазяханьні нашых абаронцаў пасьпеў на дабіваньне - 2:3. На зыходзе гульні «Нёман» здолеў яшчэ стварыць некалькі момантаў -небясьпечна атакавалі Сярогін, Жылюк, але ім не пашанцавала. І яшчэ пару слоў пра судзейства. Жлобінскі арбітр Чэбыкін істотна не паўплываў на зыход барацьбы. Але, калі гарадзенцам ён раздаваў жоўтыя карткі зусім кваліфікавана, то на грубыя парушэньні дынамаўцаў, як і на «стрыптыз» Шаўрова (пасьля голу форвард сарваў з сябе кашульку) проста закрыў вочы.

Пасьля гульні вярэдзіць раны трэнераў «Нёмана» не хацелася. А вось пагутарыць з **ІВАНАМ ШЧОКІНЫМ** удалося. Пра яго надзвычай суровае абыходжаньне з журналістамі



ходзяць цэлыя легенды. На гэты раз, нават нягледзячы на сьпешнасьць ад'езду дынамаўскага аўтобусу, настаўнік чэмпіёнаў быў сама дабразычлівасьць:

- Па сёньняшняй гульні ў нашым складзе цяжка каго-небудзь адзначыць. Нават Уладзімір Макоўскі, хаця і забіў гол, выглядаў стомленым. Мяркую, бліжэйшыя матчы выявяць больш яркія якасьці лідараў «Дынама». Чаму правалілі першы тайм? Усе падрыхтаваныя, ірвуцца ў бой, але не заўсёды здольныя выконваць ўстаноўкі.

***- Што вы сказалі сваім падначаленым у перапынку?***

- Зазначыў, што так гуляць нельга - заўзятарам не вытлумачыш, што ў нас быў напружаны падрыхтоўчы цыкл да заключнай трэці чэмпіянату. Футбол - гэта відовішча, і, выходзячы на поле, кожны павінен гэта ўсьведамляць.

***- Многія сьпецыялісты акрэсьліваюць шанцы «Дынама» у гонцы з МВКЦ за чэмпіёнства як «фіфці-фіфці»...***

- Я не аматар прагнозаў - тут усё непрадказальна. Мы вырашаем свае праблемы, мазырцы - свае.

***- Як вам падаўся «Нёман»?***

- Прыхільнікі клубу могуць не хвалявацца - вылет з лігі не пагражае. Адчуваецца, хлопцы могуць прыбавіць. Улічыце, што сёньня на іх цісьнуў дадатковы псіхалагічны груз.

Пасьля гэтай паразы «Нёман» па-ранейшаму ўтрымліваецца на 11-м месцы. Але і пасоўваньня ўгору не прадбачыцца. У Лідзе мясцовы «Абутнік» «праглынуў» чарговы «абаранак» (1:3 ад навапалацкага «Нафтану»). Становішча лідчукоў ускладнілася, так што ўчарашняе рандэву ў Салігорску з суседзямі па «сутарэньні» было досыць прынцыповым.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**



## ДЗЕ ДОБРА, ТАМ І РАДЗІМА

**Менавіта гэты дэвіз касмапалітаў узялі на ўзбраеньне баскетбалісты нацыянальнай баскетбольнай дружыны.**

Яе лідар Валеры Дайнека памяняў ня толькі клуб, але і грамадзянства, прыняўшы расейскае. Па аналагічным шляху гатовы пайсьці Руслан Байдакоў. А вось экс-гарадзенец Аляксей Альшэўскі вельмі хутка натуралізаваўся ў Польшчы. Панёсшы такія адчувальныя страты, баскетбалісты зборнай Беларусі, зважаючы і на ўжо традыцыйны недаезд «амерыканцаў», наўрад ці змогуць пераадолець кваліфікацыю эўрачэмпіянату. Што ж, нашая краіна працягвае заставацца ўсяго толькі танным рынкам спартовай «сыравіны».

Стала таксама вядома, што яшчэ адзін з «залатога» складу «Гродна-93» - Андрэй Васілеўка - будзе гуляць у клубе другога польскага дывізіёну «Чарны» з горада Слупск.

**Х.КАМЕНСКІ.**



## КІНААФІША ГОРАДНІ

**«ГРОДНА»**: 20-23 верасьня - «Карабель «Анжэліка» (прыгоды, 1,5 с.) -10.00, 12.00, 14.10, 16.20, 18.30, 20.40. 24-29 верасьня -»Касьмічная заварушка» (фантастыка) - 9.50, 11.40, 13.30, 15.20, 19.10, 21.00. ВІДЭА: 21-23 верасьня - «Невынішчальны шпіён». 24-26 верасьня - «Вёска праклятых». 27-29 верасьня - «Чокнуты прафесар». Сеансы: 10.00, 12.00, 14.00,16.00, 18.00, 20.00.

**«КАСТРЫЧНІК»**: 21-23 верасьня - «Сыны Вялікай Мядзьведзіцы» - 10.00 (ільготны), 11.40, 13.20, 15.10. «Цень ваўка» - 15.00, 16.50, 18.40, 20.30. «Дзейнічай, сястра!» - 15.30, 17.30. «Сэкстое пачуцьцё» (эротыка) - 19.20, 21.00. ВІДЭА: «Скала» (баявік) - 15.00. «Пратэус» (жахі) - 16.50. «Чокнуты прафесар» (камедыя) - 18.40, 20.30. Кожную сераду і нядзелю - Школьная дыскатэка - 18.30. НАЧНЫ КЛУБ: штодзённа музычна-забаўляльная праграма - 22.00 (панядзелак і аўторак - выхадныя).

**«ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»**: 20 верасьня - «Кабельшчык» (суперкамедыя) - 12.10, 16.40, 20.50. «Фантом» (эратычны баявік) - 14.20, 18.40. «Кібарг-паліцэйскі-3» - 11.20 (ільготны). «Дыназаўр Тэадор Рэкс» (фантастычная камедыя) - 13.50. «Эротыка па тэлефоне» (для дарослых) - 16.00, 20.00. «Іншапланяцянка» (эратычная камедыя для дарослых) -18.00.

**«КОСМАС»**: 20, 21 верасьня - «Шлюб па-амерыканскі» - 13.40, 17.20. «Спакус у каханьні» - 15.30, 19.10. «Дыскатэка» -21.00. ВІДЭА: 20 верасьня - «Раптоўная сьмерць» - 12.30, 14.30, 18.30. «Каханьне пірамальяка» - 16.30. 21 верасьня - «Чалавек цемры-3» - 12.30, 16.30. «Французскі пацалунак» - 14.30, 18.30.

**імя ПУШКІНА**: 20 верасьня - «Поўнае зацьменьне» - 10.00,13.40,19.10. «Боегалоўка» - 11.50, 17.20. «Двое: я і мой цень» - 15.30. Дыскатэка- 21.00.

**«УСХОД»**: аўтаадказчык - **47-81-29.**



## БЕЗ МАСКВЫ ЖЫЦЬ МОЖНА

**14 верасьня ўзяў старт другі чэмпіянат Усходне-эўрапейскай хакейнай лігі. Сёлета яе склад узмацніўся, пашырылася і геаграфія ўдзельнікаў. За ўзнагароды турніру будуць змагацца дзевяць камандаў: «Нёман» (Горадня), «Юніёрс» (Рыга), «Палімір» (Навапалацк), «Цівалі» (Менск), «Сокал» (Кіеў), «Энергія» (Электрэнай), «Ільдзінка» (Кіеў), «Юнацтва» (Менск), «Алімпія» (Польшча).**

На першым этапе спаборнікі згуляюць паміж сабой па чатыры разы (раз'езды з спаранымі гульнямі). Пасьля васьмёрка («Алімпія» выступае па-за конкурсам) па сістэме плэй-оф выявіць чэмпіёна і прызёраў. Завершыцца першынство ажно ў сярэдзіне сакавіка.

Цяжка пакуль ацаніць узровень лігі, якой пайшоў другі год. Бясспрэчна адно - мы перасталі быць закладнікамі непрадказальнай палітыкі маскоўскіх хакейных функцыянераў. Эканомяцца і значныя фінансавыя сродкі, якія патрабаваліся раней для далёкіх ваяжоў (у Сібір, напрыклад). Будзем спадзявацца, што Балтыйска-Чарнаморскі хакейны зьвяз дазволіць захаваць яго ўдзельнікам папулярны від спорту ў сваіх краінах.

**«Нёман» - «Алімпія» - 9:1** (шайбы ў гарадзенцаў закідвалі: Сьцефановіч - тры, Малашкевіч, Кадыраў, Галавінаў, Чурабаеў, Пстыга, Гальчын).

Падрабязна апавядаць пра перыпетыі першага «скрыжаваньня» клюшак ня варта - гульня ішла «у адну касу». Два перыяды шайбы сыпаліся ў брамку гасьцей з надзвычайнай «шчодрасьцю» і на любы густ. Асабліва парадаваў трыбуны сольным праходам Аляксандр Пстыга. Адзначым таксама хет-трык дэбютанта УЭХЛ Ігара Сьцефановіча і 20-ы гол у гэтых чэмпіянатах Алега Малашкевіча. Толькі на самым зыходзе матча польскія «алімпіёнікі» здолелі пазьбегнуць сухога ліку.

Нягледзячы на такую вялізную перавагу, асаблівай усьцешнасьці на твары галоўнага трэнера «Нёмана» і зборнай Беларусі **АНАТОЛЯ ВАРЫВОНЧЫКА** не чыталася:

- Галоўнай праблемай для нас перад чэмпіянатам было мноства траўмаваных гульцоў. Адсюль рознасьць у фізічных кандыцыях, не ва ўсіх функцыянальны стан на ўзроўні.

***- Заўзятары ня могуць вызначыць - хто на сёньня галоўны галкіпер «Нёману»?***

- Я таксама хацеў бы ў гэтым разабрацца... Убачым толькі ў працэсе гульняў.

***- Як вы ацэньваеце перспектывы УЭХЛ?***

- Чэмпіянат, што распачаўся, - безумоўны крок наперад, бяз гэтай лігі наш хакей проста здэградаваў бы. Будзем гуляць, глядзіш, праз год-два да нас падключацца і больш моцныя клубы Эўропы.

***- На каго з гарадзенцаў разьлічваеце як трэнер зборнай?***

- Кандыдатам у мяне значыцца Сьцефановіч, у перспектыве - маладыя абаронцы Вярбіцкі і Цецераў.

***- Ці плануюцца таварыскія спарынгі нацыянальнай дружыны?***

- Не, паколькі легіянераў ніхто ў разгар сезону на іх не адпусьціць, а мясцовыя хакеісты таксама задзейнічаны (у сераду паралельна з УЭХЛ «рушыў у шлях» 5-ы чэмпіянат краіны - Х.К.).

**«Нёман» - «Алімпія» - 4:2** (Чурабаеў, Пстыга, Малашкевіч, Галавінаў)

Паўторнае спатканьне адрозьнівалася ад суботняга, як дзень ад ночы. Да 52-й хвіліны захоўвалася напруга. І заслуга ў гэтым належыць польскім «масачнікам» (якіх трэніруе вядомы сьпецыяліст Уладзімір Сафонаў. Момантамі госьці дэманстравалі прывабную, тэхнічную гульню. Экспрэс-каментар капітана нёманцаў **АЛЯКСАНДРА ПСТЫГІ:**

- Не скажу, што мы не настроіліся сёньня на матч, разумелі - ён дасца складана. Проста супернікі ўлічылі свае памылкі і зрабілі высновы. Мне асабіста пакуль пасьля траўмы цяжкавата, буду паступова набіраць форму.



Аляксандр Пстыга.

***- Па ходзе гульні траўму атрымаў Мядзьведзеў...***

- І здаецца сур'ёзную - у яго пашкоджана ключыца.

***- Параўнайце «Нёман» мінулагодні і цяперашні.***

- Абарона наша за гэты час крыху ўзмацнілася. У нападзеньні - тры амаль роўных тройкі, хаця пару моцных крайніх нападнікаў займець не пашкодзіла б.

Астатнія матчы УЭХЛ завяршыліся так:

**«Палімір» - «Энергія» - 14:0, 14:0**

**«Юнацтва» - «Цівалі» - 2:9, 0:6**

**«Сокал» - «Ільдзінка» - 7:1, 6:1**

Калі нумар газеты ўжо быў падрыхтаваны да друку, сталі вядомыя вынікі 1 туру чэмпіянату краіны.

**«Цівалі» - «Нёман» - 3:1**

Заўтра і пасьлязаўтра ў сваім лядовым палацы «Нёман» прымае электрынайскую «Энергію». Пачатак сустрэчаў у 17.00 (субота); 13.00 (нядзеля).

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

**БАРАН (21.3-20.4)** Зоры вяшчуюць шмат посьпехаў у каханьні. Але заразам не занядбай працы. Падумай пра планы на будучыню. На асеньнія закупы найлепшаю будзе субота.

**БЫК (21.4-20.5)** У бліжэйшыя дні зможаш сябе паказаць з найлепшага боку, не забудзься гэта скарыстаць. Новыя знаёмствы прыдадуцца ў справах. Абавязкова паклапаціцеся пра здароўе.

**БЛІЗЬНЯТЫ (21.5-21.6)** будзеш заўсёды там, дзе робіцца нешта важнае, з чаго займееш клопаты. Але пасьпяшае на дапамогу нехта з-пад знаку Льва, можаш пэўна пагадзіцца з ім на любаснае спатканьне.

**РАК (22.6-22.7)** У працы могуць паўстаць перашкоды. Але не панікуй. На суцяшэньне будзе палепшаньне ў фінансах. Падумай пра сваіх блізкіх.

**ЛЕЎ (23.7-23.8)** Леў - гэта найрамантычнейшы знак у нябесным зьвязку. А калі дадаць сюды стан закаханасьці, дык можаш цяпер уявіць сабе ўзьлёт. Але ў адносінах да Блізьнят шмат не загадвай.

**ДЗЕВА (24.8-23.9)** У нядзелю (22.09) Сонца апусьціць Твой знак, але далей разьлічвай на ўсьмешку фартуны. Пойдуць далёкасяжныя вытворчыя планы. Падсумуй справы. Добрае здароўе.

**ШАЛІ (24.9-23.10)** З выхадам Сонца на Твой знак (22.09) адчуеш наплыў сілаў. Мяркуюцца посьпехі ў кожным разе, і ў каханьні, і ў вытворчасьці. Ці зноў каханьне?

**СКАРПІЁН (24.10-22.11)** Людзі кажуць, што кожны працуе на сябе. Не азірайся шмат на іншых і рабі ўсё самахоць. Зрабі планы на іншы тыдзень. У сераду атрымаеш ліст.

**СТРАЛЕЦ (23.11-21.12)** З выняткам пятніцы шчасьлівы тыдзень. Помні аднак, што каханьне трывае нядоўга. Спытайся свайго партнёра пра яго планы. Яшчэ больш тое самае можна сказаць пра твой грашовы рахунак.

**КАЗЯРОГ (22.12-20.1)** Перад працавітымі Казярогамі няўдалыя дні. У панядзелак дададуцца цяжкасьці ў працы. Нехта з-пад знаку Барана пасьпяшае Табе на дапамогу. Не забудзься падзякаваць.

**ВАДАЛЕЙ (21.1-19.2)** Мяркуецца надзвычай таварыскі тыдзень. Магчымыя сустрэчы з замежнікамі. У выпадку сумневу аддайся на сваю інтуіцыю. Не слухайся Блізьнят.

**РЫБЫ (20.2-20.3)** З нядзелі чакае цябе шэраг здарэньняў. У працы новыя заданьні. Дапаможа Твой аўтарытэт. У пачуцьцях помні, што каханьне пазнаецца толькі ў цярпеньні.

# К Р Ы М І Н А Л

### КРАДЗЕЖ

16 верасьня з гаража прыватнага прадпрымальніка па вул.Чырвонапартызанскай зламысьнікі скралі тры мяшкі цукру, чатыры скрынкі кавы, восем скрынак сасісак, 744 бутэлькі напояў, 65 булак для хаддогаў, 10 банак маянэзу, дзьве тысячы аднаразовых стаканаў і 4 тысячы талерак. Таксама ўнесьлі дзьве маразільныя камеры «Мінск 131». Можа злодзеі вырашылі зьмяніць «бізнэс» і адкрыць сваё ўласнае «Бістро»?

### РАБАЎНІЦТВА

16 верасьня а палове 10-й увечары на жыхарку Горадні К. напаў невядомы. Ударам у твар «джэнтэльмен» зьбіў жанчыну з ног. Пасьля да ахвяры падыйшло яшчэ трох рабаўнікоў. Яны вырвалі з рук пацярпелай сумачку, у якой знаходзілася 120 тысяч рублёў, касьметыка і пашпарт.

**Д.К.**

ПАГОНЯ
грамадзка-палітычная газета
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская, 1
(0152) 72-35-61, 72-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-72-37-14 (23.00-10.00)



Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 3136 Наклад 12077
Нумар падпісаны да друку ў 16.00. 19.09.96

Рэдактар Мікола Маркевіч